# Стань анёлам надзеі

Мабыць, кожны з нас даўно альбо нядаўна хварэў. І кожны ведае, як сумна ляжаць на ложку і думаць пра тое, як хтосьці ў гэты самы час бегае ў двары, гуляе ў штосьці вясёлае альбо катаецца на лыжах ці каньках. Кожны ведае, як радасна тады, калі хтосьці з тваіх родных зазірне да цябе ў пакой, раскажа штосьці вясёлае, пагуляе з табой у нейкую настольную гульню альбо пачытае табе кніжку. Калі маеш такога анёла, які падтрымлівае цябе ў хваробе, нашмат хутчэй выздаравееш. Бо любоў, кажуць, добры лек ад самых розных хваробаў.







А можа табе таксама варта стаць для кагосьці гэткім жа анёлам? Падумай, што ты можаш зрабіць для суседа, які хварэе, альбо для аднакласніка, які ўжо некалькі дзён не быў у школе, бо таксама захварэў.

А можа хтосьці з тваіх знаёмых з прычыны хваробы даўно не быў у касцёле? Тады варта папрасіць тату завесці таго чалавека ў касцёл. Дарэчы, а ты не забываеш маліцца за тых сваіх сяброў і знаёмых, якія цяпер хварэюць? А яшчэ лепш, калі ты наведаеш таго хворага, і вы разам памоліцеся за ягонае здароўе. А потым проста пабудзеце, паразмаўляеце разам...

Кожны з нас можа стаць анёлам надзеі і ўсмешкі! Кожны! Паспрабуй! І калі табе гэта ўдасца, напішы мне, раскажы, як гэта ў цябе атрымалася.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*





# Моцная падтрымка

Ва ўсім свеце цяпер 11 лютага адзначаецца Сусветны дзень хворых, які ўстанавіў у 1992г. Папа Рымскі Ян Павел II. 11 лютага выбраны быў не выпадкова, бо ў гэты дзень у 1858г. французскай дзяўчынцы Бэрнардэце аб'явілася Маці Божая, якая выключным чынам клапоціцца аб хворых.

Але хіба мы памятаем аб нашых хворых толькі ў гэты дзень? Вядома, мы дапамагаем ім штодня, молімся таксама часта за іх. Але ў Сусветны дзень хворых ва ўсім свеце ў касцёлах адпраўляецца святая Імша ў іх інтэнцыі. Кожны, хто пажадае, можа таксама прыняць сакрамэнт намашчэння. Дарэчы, многія вернікі пасля таго, як прымуць яго, пачынаюць адчуваць сябе нашмат лепш. А некаторыя і ўвогуле — выздараўліваюць. Таму гэты сакрамэнт можна назваць падтрымкай, якую Пан Бог пасылае людзям.

Моцнай падтрымкай для хворых з'яўляецца таксама і наша малітва. Самая розная, у любы дзень і час.

**Пане Езу! Ты для нас стаў чалавекам і паказаў, як трэба любіць дзяцей. Ты браў іх на рукі і благаслаўляў іх. Просім Цябе, благаслаў нашых хворых. Твая любоў прыгажэйшая за ўсе нашы ўяўленні. Таму давяраем Тваёй апецы нашага хворага(ую) .............**

**Няхай Твая любоў пераможа той цяжар, які ён(яна) перажывае.**

*А. Барткевіч*



«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 1 (50)/2011 г.
Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.
Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,
мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.
Адрас рэдакцыі: 220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 230.
Падпісана да друку 15.03.2011 г. Надрукавана ў друкарні ПУП «Джі энд Ді».
ЛП 02330/0150065 ад 05.06.08 г. Вул. Бурдзейнага, 37–191, Мінск, 220136.

# ДАПАМАЖЫЦЕ САМІ САБЕ

***«Інтэрв'ю» са святым Янам Божым***



*— Пачнем нашу размову з непрыемнага. Кажуць, святы Ян, ты быў непаслухмяным дзіцем?*

— На жаль, гэта праўда. У маленстве я ўчыніў цяжкі грэх — уцёк з бацькоўскага дому.

*— Ты нарадзіўся і жыў у Партугаліі?*

— Нарадзіўся я ў Партугаліі, шмат накуралесіў там у гады маленства ды юнацтва, потым перабраўся ў суседнюю Іспанію.

*— Словам, браць прыклад з цябе, калі ты быў равеснікам нашых чытачоў, ім няварта?*

— Ні ў якім разе! Праўда, я быў за гэта пакараны горкім болем віны перад маімі бацькамі. Шмат, прызнаюся, зрабіў я памылак. І калі аднаго разу Пан Бог прамовіў да майго сэрца праз вусны прапаведніка, я ўжо ні кроплі не супраціўляўся і цалкам прыняў навяртанне.

*— Людзі тады нават палічылі, што ты страціў розум, бо ты паўтараў і паўтараў бясконца: «Божа! Міласэрнасці!»*

— Так, людзі падумалі, што я захварэў, і здалі мяне ў шпіталь для псіхічна хворых. Яны, уяві сабе, нават не здагадваліся, што менавіта ў тыя хвіліны я вылечыўся ад хваробы свайго грахоўнага жыцця. Пан Бог, да таго ж, разбудзіў тады ўва мне жаданне дапамагаць іншым хворым.




*— І тады ты заснаваў свой уласны шпіталь... Але хіба ты быў вельмі багаты, бо грошы ж спатрэбіліся, напэўна, немалыя?*

— О, калі б, Яська, я быў багаты, усё было б значна прасцей! Тады б мяне называлі не жабраком, а, можа, мецэнатам ці яшчэ як... Але я быў бедняком. Грошы ж для пакупкі будынка для шпіталю і на ягонае ўтрыманне, а таксама на харчаванне і лекаванне хворых я прасіў у багатых людзей. Няхай ім Пан Бог шчодра заплаціць за гэта!

*— Сапраўды, я ж чытаў пра цябе ў кнізе «Жабрак з Гранады»! Ты яшчэ,*

*памятаю, неяк вельмі хвацка збіраў ахвяраванні. Мая мама прачытала ды кажа: «Трэба нам таксама гэткімі прыгожымі словамі прасіць, калі будзем збіраць сродкі для адзінокіх хворых».*

— Я казаў так: «Дапамажыце самі сабе, падтрымліваючы бедных ды хворых, бо шчаслівыя міласэрныя — яны міласэрнасць атрымаюць». І ведаеш, Яська, дзейнічала — нават багатыя паны ды пані пры каралеўскім двары адгукаліся! Так што, перадай сваёй маме мой досвед і скажы, што яна робіць вельмі добрую справу, падтрымліваючы хворых ды нямоглых.

*— Абавязкова! Скажы, а сябры, памочнікі ў цябе былі?*

— Даражэнькі Яська! Для добрай і святой справы заўсёды знойдуцца і сябры, і памочнікі, і грошы. Знайшліся яны і для маёй справы, пазней мы нават заснавалі свой манаскі Ордэн Братоў Міласэрнасці, вядомы больш у свеце пад назваю братоў баніфратраў, што азначае *добрых братоў.*

*— А чаму, скажы, святы Ян, цябе яшчэ называюць Янам Божым?*

— Так мяне назваў наш арцыбіскуп, вось і прыжылося.

*— Гэта, напэўна, таму, што ты рабіў Божую справу. Прыгожае ў цябе атрымалася прозвішча!*

— Мне таксама падабаецца.

*— Ведаю, што ў Беларусі баніфратры з'явіліся ў XVI стагоддзі па запрашэнні караля Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага Жыгімонта III Вазы. А скажы, калі ласка, баніфратры і цяпер дапамагаюць хворым?*

— А як жа! Інакш чаго б мы называліся баніфратрамі? Гэта галоўнае наша заданне: малітва за хворых і таксама медыцынская дапамога ім. Нашы браты служаць у паліклініках, шпіталях, аптэках — усюды, дзе патрэбныя наша праца і малітва. Вунь і ваш часопіс для дарослых каталікаў «Ave Maria» друкуе нашы рэцэпты на аснове зёлак.

*— У вашых аптэках ёсць шмат лекавых прэпаратаў, зробленых на зёлках. Мая бабуля таксама кожнае лета збірае шмат зёлак. Яна кажа, што Пан Бог даў чалавеку ў прыродзе ўсе патрэбныя лекі, а людзі лянуюцца імі карыстацца.*

— І яна мае рацыю. Нездарма ж гаворыцца, што ў прыродзе ўтоеныя сапраўдныя скарбы. Таму і васілёк, і рамонак, і чабарок — усё карысна для чалавека. Важна толькі не ленавацца спазнаваць гэтыя веды і разумна карыстацца імі.

*— Дзякуй, святы Яне Божы, за цікавую гутарку! Што ты пажадаеш нашым чытачам?*

— Заўсёды ахвотна прыходзіць на дапамогу тым, каму цяжка, каму патрэбна вашая дапамога. І рабіце, калі ласка, гэта заўсёды з радасцю!

*Гутарыў Яська Запытальнік.*

Брат Тадэвуш Руціньскі

# КАРЫСНЕЙ ЗА ЛЕКІ

***Як таблеткі, горкая, баліць, як уколы,***
***Так хутка абрыдла, хоць выручае ад школы,***
***Цяжкая ці лёгкая — усё адно назола,***
***Хто з ёй не знаёмы? З гэтаю… хваробай?***

Не веру, што ёсць чараўніцы, якія змяняюць людзей так, што іх не пазнаеш. Ды часам хвароба такой і бывае — нібы чараўніца. Хтосьці быў такі рухавы, нібы кропля ртуці, усмешку меў на твары, як з рэкламы мандарынаў, спяваць любіў, як салоўка, часам нашашэраны, як верабейка. Словам, жыццё біла з яго ключом! Ажно тут раптам — так, як Бастэк, — сядзіць у кутку скрыўлены, бледны, нібы бальнічная прасціна. Кажа штосьці недарэчнае, нібы заікаецца. Нібы яго хто падмяніў.

Не засмяецца, не падскочыць, ніякая шалёная выдумка ў ягонай галаве не з'явіцца, а толькі ляжыць, цяжка сапе, да яды не дакранецца і піць таксама не хоча. Нейкі такі, як нежывы ўсё адно. Цяжка яму вельмі, бо гэтая хвароба змяніла не толькі яго самога, але і ягоных сяброў таксама. Прыйшлі, паглядзелі на яго здзіўлена — нейкі іхні сябар, нібы чужы, нібы не з ім яны яшчэ зусім нядаўна смяяліся і выдумлялі дзівосныя рэчы... Пасядзелі сябры крыху, а потым хтосьці і прапанаваў:

— Пакінем яго ў спакоі, няхай сабе пахварэе. А як паздаравее, дык і прыдзем да яго зноў.

І пайшлі. А Бастэку яшчэ горай зрабілася: бо застаўся сам-насам са сваёй хваробай, і побач амаль нікога. У галаву пачалі лезці чорныя, як змрок, думкі: «А можа я ўжо нікому не патрэбны? Можа ніхто й не заўважыць, калі я памру? Вось калі б Пан Езус меў тэлефон, я патэлефанаваў бы Яму — Ён то ўжо дакладна прыйшоў бы... Але ў тэлефонным даведніку няма Яго нумару ні на «П», ні на «Е»...»

Ды раптам чуе: хтосьці пад вакном кліча яго па імені... Крычыць, каб адчыніў дзверы, бо ён нясе для яго ўсялякую усялячыну. Бастэк адчыніў дзверы, утаропіўся на нязвыклага госця і нічога не разумее.



А гэта Каміл, якога, дарэчы, чамусьці не вельмі любяць Бастэкавы сябры ды і ён сам таксама. А чаму? Хто яго ведае... Можа, таму, што ён неяк усяго баіцца... А цяпер во стаіць сабе, усміхаецца, задыханы, нібы яго хтосьці прыслаў з добрай навіной.

— Ведаеш, — кажа, — сустрэў мяне ваш ксёндз і сказаў, што ты хворы і што гэта пройдзе, мабыць, хутка, але трэба, каб хтосьці падтрымаў твой дух. Вось я і прыйшоў... Праўда, не вельмі ведаю, як гэта робіцца... Дык во бяры — гэта ўсё табе: кампот, вельмі смачны бабулін сіроп, грушы...

— Дзякуй, — сказаў Бастэк.

— Магу трохі пабыць у цябе, а заўтра, калі ты не супраць, таксама прыйду... І паслязаўтра... А там, можа, і хвароба адступіцца.

— Вядома, адступіцца, — павесялелым голасам адазваўся Бастэк.

А хвароба гэтая нібы і сапраўды спужалася чагосьці, нібы адразу з драпежнага звера ператварылася ў мыш. Хлопцы гаварылі і не маглі нагаварыцца: столькі ўсяго было цікавага! Калі ж добра прыцьмянела, Бастэк, павесялелы, працягнуў руку на развітанне:

— Дзякуй табе! Ніколі не думаў, што ты гэткі класны сябар! Праўду кажуць, што сябры пазнаюцца ў бядзе.

Каміл сумеўся:

— Мне, ведаеш, ніхто ніколі не казаў, што я класны... Ды й сапраўды... Я, ведаеш, проста вырашыў, што табе сумна можа быць аднаму... І толькі...

Але Бастэк ведаў, што гэта было «ажно столькі»! Ён засмяяўся:

— А ведаеш, я марыў, каб да мяне зазірнуў анёл, а тут ты і з'явіўся так неспадзявана... Гэта... нашмат карысней за лекі!

— Да заўтрага! — выгукнуў Каміл і радасна ўзмахнуў на развітанне рукамі. Нібы крыламі.

*Пераклала з польскай мовы І. С.*



Ірына Жарнасек

# Снегатрус

## *Зімовы ўспамін*

Стаў на лыжы снегавік,
з'ехаў з горкі і —
ку-у-улік! —
дагары кругляком,
неабдымным жыватом.

Паляцела што-куды:
міска-капялюш дрын-брын —
проста ў кош прахожаму,
гузікі скок-брык набок —
патанулі ў снезе.
Адно шчасце: морква-нос,
хоць і стаўся перакос,
ацалеў-ткі цудам.

Стогне, крэкча снегавік,
просіць ён дзяцей умольна:
— Ох, збярыце ж вы мяне
ды пастаўце пры вакне
хлопчыка Андрэйкі.
Прастудзіўся наш Андрэй,
кашляе, бядота,
скардзіцца на белы свет,
змок да ніткі потам.
Ён сядзіць, гаротнік, дома,
п'е таблеткі ды гарбату
зёлкаваю з мёдам.
Я ж яго лячу гумарам,
каб ён зноўку быў вясёлы,
бегаў каб на лыжах



спрынтэрам ці бліжай.
Баю хлопцу я прыгоды
пра маіх сяброў-калегаў,
злепленых з адлігі й снегу,
пра спартоўцаў-удальцоў
баявых снегавікоў.

Дзеці часу не гублялі,
дзіву не даваліся
з усяго пачутага:
пазбіралі ды зляпілі,
таўхалямі змацавалі
выдумляку-таўстуна,
каб заняў ён зноўку варту
пад вакном іх сябрука.

А яшчэ сказалі праўду
проста ў вочы з вугалю:
— Не спартсмен ты, снегавік,
з гэткаю фігураю!
Ты схудней спачатку, братка,
з дапамогай фітнэсу,
пасябруй з паненкай файнай —
сціслай ХарчДыетаю.
Адшукай найперш ты ногі
у сябе пад тоўстым брухам.
Бо без іх на горцы кожнай
адно й будзе:
сне-га-трус! —
дагары кругляком,
неабдымным жыватом!

*Малявала*
*Рэната Лазарчык.*






# ЧАКАЕМ У ГОСЦІ




Пахвалёны Езус Хрыстус!

Шаноўная рэдакцыя!

Вітаюць вас дзеці з невялікага прыгожага гарадка Астравец, што на Гарадзеншчыне.

Мы вельмі любім чытаць «Маленькага рыцара». І таму хочам таксама пазнаёміць вас з Астраўцом.

Наш невялікі горад вельмі прыгожы. У нас ёсць касцёл святых Космы і Дам'яна. Ён быў пабудаваны яшчэ ў 1785–1787 гадах на месцы драўлянага касцёла і кляштара дамініканцаў.








Кожную нядзелю нас, дзяцей, збіраецца шмат на святую Імшу. Мы ўдзельнічаем у працэсіі, і сярод нас шмат міністрантаў.

Нашы святары — кс. Юзаф і кс. Вячаслаў.

Таксама ў нашай парафіі працуюць сёстры эўхарысткі: сястра Лена, сястра Аня і сястра Маргарыта. Гэта самыя лепшыя сёстры! Яны дапамагаюць нам сустрэцца з Езусам Хрыстом. Рыхтуюць нас да сакрамэнтаў: споведзі, Камуніі, бежмавання.

А на канікулах мы разам адпачываем.

Прыязджайце да нас у госці!

*Чытачы часопіса «Маленькі рыцар Беззаганнай» з Астраўца.*

**Ад рэдакцыі:** *Вельмі парадаваў нас гэты матэрыял. Вось і падумалі, а чаму б і іншым дзецям не расказаць на старонках часопіса пра сябе і сваю парафію? Папрасіце сястёр-законніц альбо іншых дарослых дапамагчы вам. Словам, чакаем вашых цікавых лістоў і здымкаў!*






**Дні, калі чалавек хварэе, вядома, не самыя прыемныя ў ягоным жыцці. Але часта бывае, што менавіта ў гэтыя дні мы раптам адкрыем штосьці вельмі важнае пра сябе і нашых блізкіх, сяброў. Напрыклад, мы зразумеем, як моцна іх любім. Значыць, боль таксама нечаму нас вучыць? Альбо мы нібы новымі вачыма паглядзім на свет вакол нас і ўбачым ягоную непаўторную прыгажосць... Вось што пра гэта думаюць дзеці з Астраўца.**



# Боль таксама вучыць



Мая маці моцна перажывае, калі я хварэю. Таму я стараюся лячыцца, каб хутчэй паправіцца. А калі хварэе мама, тады кепска мне.

*Насця Дыдышка, 12 гадоў.*



Не люблю хварэць, бо адчуваю сябе тады дрэнна, не магу хадзіць у школу, сяджу ў хаце і мне сумна. Калі ж хварэюць родныя, я імкнуся ім дапамагаць.

*Алеся Ляховіч, 13 гадоў.*



Я вельмі баюся трапіць у бальніцу, і баюся, калі хварэюць родныя.

*Дзіма Вайцяховіч, 8 гадоў.*



Калі хварэюць іншыя, я за іх малюся, калі я хварэю, яны за мяне моляцца.

*Вераніка Саковіч , 9 гадоў.*





Калі хварэюць мае бацькі, я дапамагаю ім, чым магу, і яны мяне хваляць. Гэта прыемна. А калі хварэюць сябры, я іду да іх у госці, каб павесяліць іх. Малюся за іх у касцёле. Гэта вельмі дрэнна — хварэць.

*Карына Ранцава,12 гадоў.*



Трэба, каб каля хворага абавязкова быў здаровы чалавек і дапамагаў яму. Таму я стараюся больш быць дома, калі хтосьці ў нас хварэе.

*Вадзім Пяткевіч, 9 гадоў.*



Сумна, вядома, калі хварэеш. Праўда, тады не трэба хадзіць у школу ды і дома ніякай працы няма. Але я гатова рабіць ўсё, каб толькі былі здаровыя мае бацькі. Таму я малюся і прашу ў Бога для іх здароўя.

*Вольга Аўтуль, 12 гадоў.*



Калі захварэе бліжні, я за яго моцна перажываю. А калі захварэю сама, то сумую, бо вельмі сумна сядзець у хаце. Лепш быць з сябрамі.

*Віялета Пятровіч, 10 гадоў.*



Я шмат малюся за тых, хто хварэе. Кожны дзень хаджу тады ў касцёл і малюся да Бога, каб хворы хутчэй выздаравеў.

*Арцём Тумко, 9 гадоў.*



Цяжка хварэць самому, але балюча таксама, калі хварэюць бліжнія. Таму за здароўе людзей трэба шмат маліцца.

*Мікіта Дзіканчук, 10 гадоў.*



Калі я хварэю, я п'ю лякарствы і хаджу ў паліклініку. А калі іншыя хварэюць, малюся за іх і хаджу ў касцёл.

*Саша Ярмак, 9 гадоў.*



# І мы ў гэтым свеце







*Агатка, Ігнат і Веранічка Новікавы — сёстры і брат.*
*Яны таксама надзейныя сябры, і ім ніколі не бывае сумна,*
*бо мама з татам вучаць іх і працаваць, і адпачываць з радасцю.*



# ПРАЗ ГОД ПАСЛЯ АПЕРАЦЫІ



Яшчэ год таму пра навапалачанку Палінку Мішута пісалі многія беларускія газеты і часопісы, паведамленнямі пра стан яе здароўя поўніўся інтэрнэт. Палінка хварэла на вельмі рэдкую хваробу — *дыяпатычнае апное ў сне*, гэта значыць, яна не магла самастойна, без медыцынскай апаратуры, спаць. Палінка ад нараджэння вымушана была жыць у бальніцы. Ёй патрэбна была складаная аперацыя, якой у нас не робяць. Таму грошы на аперацыю збірала, можна сказаць, уся Беларусь. Дзякуй Богу, сабралі!



Дарэчы, многія бацькі чытачоў нашага часопіса таксама падтрымалі Палінку. Вялікі ім дзякуй!

І вось роўна праз год пасля аперацыі, якая была паспяхова зроблена ў Швецыі, мы наведалі Палінку. Цяпер яна жыве дома, разам з мамай і татам у новай утульнай кватэры. Палінка адчувае сябе добра. У яе шмат цацак, яна любіць гуляць, гарэзнічаць, глядзець мультфільмы. Усе яны — мама, тата і Палінка — шчаслівыя. І гэта, дзякуючы добрым сэрцам людзей, якія не пакінулі іх адных у бядзе. Словам, разам мы можам вельмі шмат! Разам мы моцныя!

*І. Студзеньская*



# Жменька попелу

У беларускіх католікаў здавён існуе такі звычай: да таго як распачаць Вялікі пост, парафіяне зносяць у кучу леташнія старыя вербы, якія былі вельмі прыгожымі й святочнымі тады, калі яны віталі Езуса ў Пальмовую, альбо, як у нас кажуць, Вербную нядзелю. За год вербы пашарэлі, пацямнелі, пакрыліся пылам, як і многія нашы прыгожыя абяцанні ды пастановы. Таму іх збіраюць у адну кучу і спальваюць. Ад бярэма некалі святочных вербаў застаецца кучка попелу, які аддаюць святару, а ён у Попельную сераду, альбо, як у нас кажуць, на Папялец, пасыпае гэтым попелам галовы вернікаў падчас літургіі ў знак таго, што чалавек павінен памятаць пра свае нявыкананыя ды занядбаныя справы, пакаяцца ў сваіх грахах, перапрасіць таго, каго пакрыўдзіў, памірыцца з тым, з кім пасварыўся.





У гэты дзень, здаецца, не толькі святар, але й само неба апранаецца ў фіялетавы колер. Свет робіцца сур'ёзны, задумлівы, ён нібы прыцішвае дыханне — пачынаецца Вялікі пост...

Сярод тых кепскіх ды непрыгожых справаў, якія ты, дружа, напэўна, учыніў, прыгадай таксама і тое, што ты **не зрабіў**. Магчыма, ты не наведаў кагосьці з тваіх знаёмых, хто цяпер хварэе. Магчыма, камусьці з аднакласнікаў, хто нядаўна хварэў, трэба было дапамагчы зрабіць урокі. А можа, хтосьці доўга чакаў твайго званка ды так і не дачакаўся?..

Многае з усяго гэтага, дружа, можна выправіць. У Вялікім посце...

*Адась Чаронка*





## Хіба гэта хвароба?

Сябар нядаўна скардзіўся мне на сваю маці, якая сварыцца з ім за тое, што ён даўно не быў у споведзі і не спяшаецца гэта рабіць. Яна кажа, што калі захварэў, дык трэба хутчэй лячыцца, каб не перайсці ў разрад хранічна хворых. Сябар спрачаўся з ёй пры мне, дык яна і сказала, каб я таксама асцерагаўся, бо хвароба граху можа быць заразнай. Яна ж, вядома, жартавала?

*Мацвей, 10 гадоў*



## Надзейныя прышчэпкі



Жартавала? І так, і не. Бо калі ў нас баліць горла альбо жывот, калі мы кашляем і ў нас тэмпература, гэта сігнал аб тым, што захварэла цела. А калі ў нас пасяліўся грэх і мы не спяшаемся развітацца з ім, гэта значыць, што захварэла душа. І адно, і другое кепска. Патрэбны добры лекар. Адно што, цела мы лечым з дапамогай лекаў, кампрэсаў, уколаў, а душу... Для лекавання душы нам патрэбны Езус Хрыстус. Ён найлепшы лекар усіх людскіх душаў. І мама твайго сябра, Мацвей, правільна кажа: душу трэба лячыць. І чым хутчэй, тым лепш!

А ці заразная хвароба граху? Можна сказаць, што і так... Толькі на гэтую заразу ёсць надзейныя прышчэпкі ды супрацьяддзе — **Божае слова і малітва**. Ужывай гэтыя лекі часцей, і ніякая зараза да цябе, Мацвей, не прычэпіцца!

*Маленькі рыцар Беззаганнай.*

# Выняты з вады

**Кніга Зыходу**
*раздзел 2, вершы 5–10*

Тым часам дачка фараона сышла ўніз, каб выкупацца ў рэчцы, а служанкі яе хадзілі па ўзбярэжжы ракі. Калі яна заўважыла ў трыснягу кошык, паслала адну са служанак сваіх прынесці яго. Адкрыўшы, яна ўбачыла дзіця – хлопчыка, які плакаў. І пашкадавала яго, кажучы: **«Гэта адно з габрэйскіх дзяцей»**. Тады сястра хлопчыка сказала дачцэ фараона: **«Хочаш, я пайду і паклічу табе карміцельку з габрэек, якая зможа выкарміць для цябе дзіця?»** Тая адказала: **«Ідзі»**. І пайшла дзяўчына, і паклікала маці немаўляці. І сказала ёй дачка фараона: **«Вазьмі гэтага хлопчыка і выкармі яго для мяне, а я буду плаціць табе»**. І ўзяла жанчына хлопчыка, і выкарміла яго, а калі ён падрос, перадала дачцэ фараона. І тая прыняла яго як сына і назвала Майсеем, бо казала: **«Я дастала яго з вады»**.







# Стань супрацоўнікам

Вядома, дачка фараона не ведала, што дзіця, якое яна выратавала з вады, будзе надзвычай слынным чалавекам і што менавіта Майсей выканае адказную місію — выведзе народ ізраільскі з палону. Гэтаму Божаму дзіцяці і рака паслужыла, і нават дачка злога фараона дапамагла.

Часта Бог для выканання Яго плану выкарыстоўвае самыя нечаканыя сітуацыі і, здавалася б, самых неспадзяваных людзей. Богу ў Яго справах патрэбныя супрацоўнікі.

А ты гатовы стаць супрацоўнікам Бога? Ты гатовы дапамагчы тым, хто трапіў у бяду? Гатовы падаць руку таму, хто спатыкнуўся і нават выбрудзіўся? Альбо пасябраваць з тым, ад каго ўсе адвярнуліся?

Богу патрэбныя супрацоўнікі. Стань адным з іх!



# Гульні Загадкі

## Напруж свой зрок



*Знайдзі 6 адрозненняў на гэтых малюнках.*
*Прыгадай, як называецца гэтая падзея ў Евангеллі?*

## ЗАГАДКІ З ЕВАНГЕЛЛЯ

Вельмі радуе, сябры, што многія з вас умеюць карыстацца Евангеллем і знаходзяць правільныя адказы на пытанні. А калі некаторыя і памыляюцца – нічога страшнага! Кажуць, не памыляецца той, хто нічога не робіць.

Прапаную вашай увазе новыя загадкі і, вядома, з нецярплівасцю буду чакаць адказаў. А пераможцаў зноў будуць чакаць прызы.

*Маленькі рыцар Беззаганнай.*



* Якой сілай надзяліў Езус Хрыстус сваіх вучняў? (Лк 9, 1)
* Што дастаткова было зрабіць некаторым хворым, каб вылечыцца? (Мк 3, 10)
* Што здольнае ратаваць людзей ад хваробаў? (Мк 5, 34)
* У часе малітвы Езус ........ .... і ацаляў іх (пар. Лк 4, 40)
* Колькі гадоў хварэў чалавек, якога Езус вылечыў пры купальні? (Ян 5, 2–9)

# Крыжаванкі

## Шыфраванка

А І Р В Я Ы Н О Ґ Ц Л С М

Кожнай літары адпавядае канкрэтны малюнак. Упішы патрэбныя літары ў дыяграму і прачытаеш залатыя словы, якія святы Пётр сказаў усім хрысціянам. Запішы іх і запамятай!



*Адказы на* **«Загадкі з Евангелля»,** *змешчаныя ў № 4 за 2010 г.*

Альжбета і Захарыя; Завядзеевы; з роду Давіда; у Назарэце; Ян Хрысціцель у рацэ Ярдан; у Ерузалеме на Пасху; Бетанія; Пётр.

Узнагароды ад ксяндза Сяргея Сурыновіча атрымаюць:
**Віктар Мяцеліца** з Наваполацка,
**Мікола Томкавіч** з Вілейкі,
**Яна Ананька** з Полацка,
**Міхаіл Галубіхін** з Чэрвеня.
Адну недакладнасць дапусцілі
**Наташа Карава** з Наваполацка
і **Ганна Быхавец** з вёскі Чарнешчына Полацкага раёна.
Яны таксама атрымаюць прызы.

* Якія цуды тварыў Бог праз святога Паўла? (Дз 19, 11–12)
* Як Езус аздаравіў сляпога ад нараджэння? (Ян 9, 6–10)
* Кім даводзілася святому Пятру жанчына, якую Езус вылечыў ад гарачкі? (Мк 1, 30 – 31)
* Кім працаваў бацька дзяўчынкі, якую ўваскрасіў Езус? (Мк 5, 22–24, 35–42)
* Што зрабілі сябры аднаго хворага, каб трапіць з ім да Езуса? (Мк 2, 3–5)

# Прыгоды ксяндза Лявона

## Адкласці на потым

Дзень і ноч падаў густы снег. Дарогі засыпала так, што не прабіцца па іх ні на машынах, ні на конях, адно што, можа, на трактары. Дык жа дзе той трактар? І калі ён прыб'ецца чысціць дарогі ў Залессе? Хоць бы не расхварэўся які парафіянін, а то ж нікуды не выедзеш...

І гэтак яно во часам бывае: варта штосьці непамыснае падумаць, а яно і... стук-стук да цябе ў хату. Што праўда, не пастукалі, а пазванілі. З Бярозаўкі патэлефанаваў Антось Шыбека ды пачаў бедаваць:

— Маці ў мяне занядужыла. Просіцьмоліць, да споведзі хоча, а то, кажа, нізавошта нязгодная без споведзі на той свет адыходзіць.

— А як жа, а на чым жа мне да вас дабрацца? — не на жарт разгубіўся ксёндз Лявон.

Пабедавалі, пагаравалі, а што рабіць — так і не прыдумалі.

— Можа, патрывае неяк маці... — адно няўпэўнена прамармытаў Шыбека.

Паклаў ксёндз Лявон слухаўку, пачаў хату з кута ў кут крокамі мераць ды маракаваць тое-гэна. Прыпыніўся каля вакна, глядзіць, а ягоныя міністранты Цімох з Мацвеем проста ад плябаніі ўніз з гары лоўка так на лыжах гойсаюць. Выбег ксёндз Лявон, махнуў ім рукой — давайце, хлопцы, сюды! І праз нейкае паўгадзіны з Залесся ў бок Бярозаўкі вырушыла незвычайная група лыжнікаў: ксёндз Лявон і двое міністрантаў. Апранутыя, як і належыць: ксёндз Лявон — у сутане, міністранты — у белых комжах.

...Пасля споведзі пані Гражына прыняла святую Камунію, потым малілася, склаўшы на грудзях рукі, а потым зусім неспадзявана для ўсіх прысутных, што кленчылі тут жа пры яе ложку, заўсміхалася:

— Але ж і падарунак мне сёння зрабілі! Дзе ж гэта калі чувалася, каб ксёндз да хворага ды на лыжах бег?

— Дык жа я не адзін, — засмяяўся ксёндз Лявон, — а з такімі памочнікамі — хоць куды і хоць на чым у дарогу не страшна кідацца!

Пані Гражына кіўнула галавой:

— Дзякуй вам, дарагія! Такое перажыўшы, і паміраць расхацелася!..

— Дык і адкладзіце гэтае дзела на потым! — падаў голас Цімох.

— А калі спатрэбіцца, мы ж і потым прыедзем — снегу ву-унь колькі! — падтрымаў сябра Мацвей.

На гэты раз ужо ўсе, хто быў у хаце, дружна засмяяліся.

*Прыгоду запісала І. Ж.*







# Галерэйка



Таццяна Глаўгель,
г.п. Астравец.



Віялета Яхімовіч,
г.п. Астравец.




Каця Дыско,
г.п. Астравец.



Юля Гаваноўская,
г.п. Астравец.



Антон Чаронка,
10 гадоў,
г. Наваполацк.



Дар'я Юцкевіч,
г.п. Астравец.



Саша Нагорскі,
г.п. Астравец.



Аня Пятровіч,
г.п. Астравец.



Малгажата Наўроцка

# Няхай ніхто не плача!

Пане Езу, гэткі да нас добры!..
І цярплівы, як дзіцячы доктар.

Хворым Ты папраў скамечаныя коўдры,
пасаладзі сіроп іх палыновы.

Ад гарачкі прышлі кампрэс з любові,
сумным дай рэцэпт на ампулы надзеі.

Тым, хто плача, дай укол з вясёлкі —
сонейкамі твары заяснеюць.

Хай ускочаць з ложкаў, як з батутаў!
Усміхнецца хай такая ім удача!

Пане Езу! Разгані ўсе хмары, буры...
Няхай ніхто ўжо сёння не заплача!

*Пераклад з польскай мовы І. Ж.*